РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА.

*Жыве Беларусь!*

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Free Hlybokaye — Volne Glebokie

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
*Янка Купала.*

Выдаецца са снежня 1994 года | №11 (43), май, 2000 года | Кошт па дамове

## Рэгіянальны экспрэс

### Доўга будзе Германія сніцца

Найлепшыя ўражанні засталіся у 22-ух старшакласнікаў Варпаеўскай і Гуцкай сярэдніх школ Пастаўскага раёна, якія 2 тыдні былі ў Германіі. Да сустрэчы з равеснікамі з дзяржаўнай рэальнай школы гарадка Герцагенаурэх, што ў федэральнай зямлі Баварыя, беларуськія падлеткі рыхтаваліся некалькі гадоў. Вялі перапіску, вывучалі нямецкую мову, год назад прымалі ў сябе дома ў трэці раз дзяцей і педагогаў з ФРГ. Для нашых дзетак гэта была трэцяя паездка на Захад. Нямецкі бок заказаў для беларусаў камфартабельны аўтобус, зрабіў праграму візіту цікавай і насычанай. У ёй акрамя наведвання урокаў былі экскурсіі па Мюнхену і Нюрнбергу, знаёмства з алімпійскім стадыёнам, фірмай «Адзідас», заапаркам, дэльфінарыем, фермерскай гаспадаркай. Пры развітанні дзеці не хавалі слёз, бо нават яны зразумелі наколькі адрозніваецца ўтульнае і заможнае жыццё немцаў ад беларускага.

### Браты меншыя ўпадабалі гарадскія кватэры

Незразумелым для спецыялістаў-эколагаў Віцебска застаюцца два рэдкія эпізоды, якія мелі месца ў гэтым густанаселеным горадзе. Што самае цікавае, абодва выпадкі назіраліся ледзь не ў цэнтры -- на Маскоўскім праспекце. Спачатку, разбіўшы акно, у кватэру ўляцела самка глушца. Гэта птушка звычайна вядзе аседлы вобраз жыцця і бліжэй пасотні кіламетраў ад горада ніколі не заўважалася. І ўжо зусім неверагодна якім чынам на антрэсолях у кватэры на 7 паверсе аказаўся вуж. Гаспадар, убачыўшы яго, вельмі напужаўся, выклікаў спецыялістаў аварыйна-выратавальнага атрада «Віцязь». Ляснога «госця» вывезлі за горад і адпусцілі.

### Разгулялася вогненная стыхія

Літаральна праз два дні пасля ўзгарання бензіну на тэрыторыі ВА «Нафтан» у Наваполацку, узнік пажар у пакоі для вартаўнікоў Талачынскага льнозавода. Яго заўважылі раніцой людзі, якія вярталіся з малебна. Пажар патушылі, знайшоўшы два трупы мужчын. Як высветлілася, адзін вартаўнік памёр за сталом, а яго знаёмы беспрацоўны задыхнуўся ад дыму на падлозе недалёка ад уваходных дзвярэй. Трагедыя адбылася з-за курэння, магчыма, у нецвярозым стане. Рэзкае пацяпленне выклікала павелічэнне колькасці пажараў на Віцебшчыне. Толькі за тыдзень з пачатку мая ў вобласці адбыліся 54 пажары. У агні загінула 5 чалавек.

### Загінуў доктар

Быццам злы рок ідзе па пятах жыхароў Пастаўшчыны. Нядаўна родныя не дачакаліся дадому доктара цэнтральнай раённай бальніцы Генадзя М. Напярэдадні ён пайшоў на рыбалку на возера Задзеўскае, што паблізу горада, дзе дазволена аматарская рыбная лоўля. Раніцой на зялёным востраве пасярод вадаёма знайшлі рэчы загінуўшага і прыбітую хваляй да берага пустую лодку. Год назад Генадзь М. амаль адначасова пахаваў бацьку і маці. Сёлета загінуў сам. Нядаўна трагічны выпадак здарыўся і з хірургам Варапаеўскай бальніцы. Крыху раней, прама ў ардынатарскай, ад інфаркта памёр яшчэ адзін прафесіянал, які выратаваў не адну сотню чалавечых жыццяў.

**Ул. Раманчук, Паставы**

### Усе гармонікі ў госці да нас

Своеасаблівай музычнай запеўкай сёлетняга «Славянскага базара» ў Віцебску стане V-ты Міжнародны фес-тываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік», які адбудзецца з 22 па 25 ліпеня. Яшчэ пару год таму назад лёс фестывалю вісеў на валаску і не сарваўся толькі дзякуючы настойлівасці мясцовых улад. Пасля трагічнай смерці кіраўніка раёна В. Чэпіка райвыканкам падтрымаў намер Міністэрства Культуры захаваць свята народнай музыкі, якое бачаць не толькі жыхары горада, але і прылягаючых сёл. Мусіць, нідзе больш не пачуеш паўзабытыя беларускія інструменты--жалейку, гарротку, саламянку, акарыну, трубу пастуха і аналаг еўрапейскай валынкі--дуду. Акрамя калектываў з усіх абласцей і Мінска, салістаў-інструменталістаў, прыпевачнікаў чакаецца прыезд артыстаў з Венгрыі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, краін Балтыі, Малдовы, Расіі і Украіны.

***Ул. Шык***



Сямейная ідылія



БЕРАЖЫЦЕ СЯМ`Ю!

## ЦЫТАТА НУМАРА

**У інтэграцыйным працэсе Расіі і Беларусі існуе элемент «двухкроп`я». Уладзімір Пуцін, да прыкладу, жадае «рабіць гэту вялікую важную справу без спеху, спакойна ісці па вызначанаму шляху, дзе галоўнае эканоміка». Аляксандр Лукашэнка, падтрымліваючы дадзеную пазіцыю, аднучасова падкрэслівае, што «вярхі сёння спазняюцца выконваць волю нашых народаў». І, называючы разважанні аб несумяшчальнасці мадэляў эканомік дзвюх дзяржаў надуманымі, заяўляе: «Дайце мне магчымасць і да канца года я спалучу гэтыя мадэлі».**

***І.Грышан « Точка опоры», «Народная газета» за 3 мая 2000 года***

Радкі з канверта

## «Мы адпраўляем дзяцей вучыцца, а не падымаць сельскую гаспадарку»

Пачалася вясна, а разам з ёй палявыя работы ў калгасах, саўгасах, дзе так адчуваецца недахоп рабочых рук. Школьнікі гарадскіх школ пачалі працоўны сезон са збору камення. Як вядома, выкарыстоўваць працу дзяцей на вытворчасці законам дазваляецца з 16 год і то толькі з дазволу бацькоў. Ну а выкарыстоўваць працу школьнікаў-падлеткаў у сельскай гаспадарцы і ператвараць іх у рабоў з 14 год можна? Аднак, дазвол на гэта даём мы самі, бацькі, не пратэстуючы супраць падобнага беззаконня.

Нядаўна вучню СШ№2 горада на каменнях разбілі галаву. Наклалі швы. Наўрад хто з равеснікаў зрабіў гэта спецыяльна. Нельга лічыць гэтае здарэнне і недаглядам настаўніцы-- яна адна, а дзяцей дзесяткі два. Тэхніка бяспекі, за якую распісваюцца дзеці перад ад`ездам (быццам бы іх праінструктавалі як і што трэба рабіць) груба парушаецца ў самых гаспадарках. Часцей за ўсё на 20-25 чалавек выдзяляюць адзін трактар ці аўтамабіль. Усе тоўпяцца, стараюцца пульнуць камень так, каб на ходу ён трапіў у прычэп. Нехта пад руку штурхнуў, нехта прыгнуўся, пыл, вецер.Ці доўга да няшчасця? Да таго ж, многі транспарт з высокімі бартамі, а каменне іншы раз не пад сілу падлеткам. І сам надрываецца і другому можа пашкодзіць. У дадатак грошы дзеці атрымоўваюць праз месяцы два-тры, тады, як яны абясцэняцца. Калі ўлічыць «велічыню» расцэнак за зробленае, то атрымаецца, што нашы дзеці горай за рабоў, бо апошнія, калі не атрымоўваюць грошай, то хоць харчуюцца і апранаюцца за кошт гаспадара. Настаўнікі супраць падобных выездаў,бо адказваць прыходзіцца ім. Каб іх падтрымалі бацькі і пісьмова забаранілі адпраўляць дзяцей на калгасныя палеткі, падобная практыка знікла б. Але і бацькі і дзеці замест таго, каб абараняць свае правы, толькі апраўдваюцца, баючыся: «Мой сын хворы», « У маёй дачкі справка». Не трэба гэтага нікому даказваць і апраўдвацца.

**Паважаныя бацькі!** Вы адпраўляеце дзяцей вучыцца ў школе, а не падымаць калгасы. Прывучаць да працы іх павінны на уроках працы, дзе няма прычыны хваляваца за здароўе і жыццё дзяцей. Нельга ператвараць дзяцей у сродак аплаты за аказаную калгасам школе дапамогу, напрыклад, у пакупцы тэлевізара. Дзеці каштуюць нашмат даражэй «каляровай скрынкі».

Разумею, што цяжка гаспадаркам падняць тое, што стаяць не можа. І ўсё ж выхад трэба шукаць, пазбавіўшыся ўласнага страху ў адпаведных «вярхах», а не вырашаць праблемы сяла наёмнай дзіцячай працай.

**Яніна Купрыянава, маці школьніцы,г. Глыбокае**

### Памятаюць Дубоўку на радзіме

Па-свойму запамінальным стаў дзень 27 красавіка ў гісторыі адкрытага два гады назад у Паставах Дома рамёстваў. Тут у рамках традыцыйнага тыдня «Мастацтва--дзецям» прайшлі літаратурныя чытанні, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння вядомага земляка-паэта, празаіка і перакладчыка Уладзіміра Дубоўкі. Яго, ураджэнца мясцовай вёскі Агароднікі, цэняць тут, як цанілі на сваёй радзіме Я.Купалу. У гонар У. Дубоўкі ў музеях Мядзеля і Пастаў створана экспазіцыя. Ёсць невялікі музей Дубоўкі ў Юнькоўскай базавай школе. У райцэнтры іменем паэта названа вуліца, дзе 15 ліпеня будзе адзначаны 100-гадовы юбілей земляка.

### О, свет, о, норавы!

25 красавіка маці пяцікласніцы Каці з Мінска звярнулася ў міліцыю з заявай, што яе дачку згвалцілі 17 і 22 красавіка каля скурдыспансера. Самае парадаксальнае ў тым, што, нягледзячы на свае гады, школьніца ўжо, лічы, прастытутка. Як сама яна заяўляе, у яе было каля паўсотні мужчын. Не адстае ад дачкі і маці.

В.К.

Фота А. Ліціна


Вясенні эцюд

# З талай вадой прыйшлі ў гаспадаркі вясеннія беды

*Людзі і іх праблемы*

Бяда, як справядліва кажуць, адна не ходзіць.За ёй, звычайна, цягнецца цэлы шлейф непрыемнасцей і праблем. Тое ж назіраецца зараз і ў гаспадарках паўночна-заходняга рэгіёну. Мала таго, што ў калгасах ды саўгасах няма грошай на закупку насеннага фонду, што дызпаліва і бензін, як тую мікстуру, дзяржава выдае па кроплі, дык і з «калёсамі» цяжка. Якая работа на зямлі без тэхнікі? А акрамя ж зямлі здараюцца і іншыя выпадкі, калі без дапамогі аўтамабіля не абысціся. Што і казаць, тэхніка ў гаспадарках на ўзроўні фантастыкі: тое, што не зламалася, тое саржавела. Але нават тыя 5-6 адзінак аўтамашын, якія яшчэ могуць рухацца, у многіх месцах стаяць колам па прычыне адсутнасці ў гаспадарках грошай на іх страхаванне.

Калі памятаеце, летась у вярхах выдалі «мудрасць»: трэба жыць і нам, як ва ўсёй Еўропе,-- цывілізавана. А каб гэта цывілізацыя адразу ж прыйшла, будзем спісваць у іх іхнія цывілізаваныя законы. І ўвялі абавязковае страхаванне аўтатранспарту, як дзяржаўнага, так і асабістага. Сумы страховак, мусіць, мала чым адстаюць ад цывілізаваных краін. Розніца толькі ў нашай і іхняй аплатах працы. Закон увялі не падумаўшы, што «абавязковае страхаванне» парушае Канстытуцыю і пазбаўляе аўтаўладальнікаў права выбіраць. А яшчэ гэтае новаўвядзенне «дапамагае» сельскай гаспадарцы разбураць, развальваць тое, што дацягнулася да мяжы трэцяга тысячагоддзя. Толькі падумайце: гаспадаркам не даюць права прадаваць прадукцыю па дагаворных цэнах, а толькі па дзяржаўных; ім даводзяць ранейшыя планы што, колькі, як сеяць, патрабуюць выканання, вынікаў і абкладаюць непасільнай «данінай» у выглядзе штрафаў ДАІ за тое, выходзіць, што калгас ці саўгас так-сяк яшчэ кявае. Так, быццам бы папаўняючы бюджэт, дзяржава тым самым разувае і распранае селяніна, які тую дзяржаву корміць-поіць.

Зусім нядаўна на Глыбоччыне здарыўся такі выпадак. У маці-адзіночкі, якая гадавала чатырох дзяцей, у Віцебскай бальніцы памерла гадавалая дачушка. Цела ляжала ў моргу ў абласным цэнтры тры дні!!!, бо саўгас не мог выдзеліць жанчыне аўтамашыну, якая была адзіным!!! рухомым сродкам на той час. Уся тэхніка стаяла на прыколе не застрахаваная, вадзіцелі не згаджаліся браць адказнасць на сябе і ехаць на ёй у далёкі свет, а дырэктар саўгаса, абкладзены шматтысячнымі штрафнымі квітанцыямі (5 мінімальных зарплат) за выезд кожнай незарэгістраванай адзінкі.

Жанчына ў роспачы на чацвёрты дзень пасля смерці дачушкі звярнулася за дапамогай да прадстаўніка Беларускага Хельсінскага камітэта ў Глыбокім. Ёй дапамаглі. Дзякуй дырэктару саўгаса, які адгукнуўся на просьбу і выдзеліў для паездкі адзіны аўтамабіль, адмянішы гаспадарчы рэйс. Грузавы аўтамабіль на чацвёрты дзень паехаў у Віцебск, каб прывезці адтуль халоднае цельца маленькай дзяўчынкі. Жах да чаго мы дажыліся!

Пры ўсім жаданні кіраўнікі гаспадарак не могуць змяніць гэты «заканатворчы працэс» і існуючыя парадкі. Стогнуць і пішчаць, што тыя ракі ў каструлі на агні, атрымоўваюць «шышкі» ад большага начальства, рвуць нервы, травяць і сваё жыццё, і жыццё падначаленых. Здаецца, што і старшыні, і дырэктары, якія перш за ўсё людзі, што гадамі жывуць і працуюць на зямлі даўно разумеюць, што шлях, якім ідзе «рэфармаванне АПК» на дзяржаўным узроўні, гэта шлях усіх нас у нікуды. Можа звернем пакуль не позна?

**С. Сядоўскі, Глыбоцкі раён**

## Учора ўдзельнік алімпіяды, заўтра--студэнт

Трэці па ліку ўдзел у рэспубліканскай алімпіядзе па геаграфіі для адзінаццацікласнікаў Кіраўскай СШ Глыбоцкага раёна Рымы Хацiловіч быў найбольш паспяховы. У складзе каманды юных эрудытаў Віцебшчыны яна вярнулася дадому з Баранавіч не толькі з дыпломам прызёра, але і з правам стаць студэнткай БДУ. Побач з Рымай годна выглядалі і два дзесяцікласнікі СШ №3 з Глыбокага Жэня Астрэйка і Саша Кірылаў, якія завявалі спецыяльныя прызы за добрыя веды па геаграфіі.

Вучань Удзелаўскай школы Нельсан Бабаян выдатна выступіў на рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове і атрымаў дыплом 3-яй ступені.

І яшчэ адна прыемнасць. Дырэктар Кіраўскай СШ Глыбоччыны Лізавета Дзмітрыева стала заслужанай настаўніцай Беларусі. Сямі лепшым педагогам, у лік якіх яна трапіла, прысуджана прэмія прэзідэнта за работу па выхаванню таленавітых дзетак.

**У. Шык**


Белая мара селяніна

## ПАСТАВЫ-ГЛЫБОКАЕ: ГІСТОРЫЯ ДАЛЁКАЯ І БЛІЗКАЯ

**Уладзімір ШЫК**
журналіст,
Паставы

# ЯНЫ БЫЛІ
## альбо Яшчэ некалькі лёсаў патрыётаў

**Сапраўды аб'ектыўная хада часу расстаўляе ўсё па сваіх месцах. Як бы не стараліся ўчарашнія і сучасныя фальсіфікатары гісторыі, але сёння на відным месцы ў чытальнай зале Пастаўскай райбібліятэкі ёсць кніга «Гарт». На пачатку дзевяностых гадоў героям гэтых хвалюючых успамінаў аб дзейнасці Саюза Беларускіх Патрыётаў (СБП) нават запрашалі ў прэзідыумы рэдкіх беларускіх імпрэзаў у райцэнтры, па беларускім тэлебачанні прайшла адпаведная тэлеперадача.**

Аднак, як і аб аднадумцах-глыбачанах, аб дзейнасці пастаўскай патрыятычнай маладзёжнай арганізацыі «За Беларусь» стараюцца цяпер не ўзгадваць. Між тым, аб іх шчырых памкненнях і суровых жыццёвых выпрабаваннях павінна ведаць грамадскасць. Па нейкаму дзіўнаму супадзенню будучая суполка СБП у Паставах, як і ў Глыбокім, пачынала стварацца ўвосень 1945 года.


Злева направа: Алеся Фурс (Умпіровіч), Леў Бялевіч, Марыя Бялевіч, Антось Фурс.

Кіраваў групай **Мікола Асіненка,** які быў спачатку прыгавораны да смяротнага пакарання, а затым атрымаў у якасці памілавання 25 гадоў пазбаўлення волі. Сакратар **Алесь Адамовіч** асуджаны на 10 гадоў зняволення. Іншыя сябры патрыятычнай арганізацыі атрымалі: **Валянцін Лагунёнак** -- смяротнае пакаранне, замененае на 25 гадоў; **Віктар Стахоўскі** -- 10 год (✞); **Янка Рымдзёнак** -- 10 год; **Уладзімір Лысёнак** -- 10 год (✞); **Ніна Асіненка** -- 10 год (✞); **Ангеліна Бароўка** -- 10 год; **Алеся Фурс (Умпіровіч)** -- 25 гадоў; **Аляксандр Дзікі** -- 10 год (✞); **Алена Мацук** -- 10 год; **Павел Лапушынскі** -- 10 год; **Яўген Сідаровіч** -- 10 год; **Іван Бароўка** -- 10 год; **Алесь Амельяновіч** -- 10 год; **Сямён Касарэўскі** -- 10 год; **Міхал Дзеравянка** адзіны, хто быў вызвалены з-пад варты ў зале суда. Невядома, як склаўся лёс **Міколы Цярашковіча.**

** Знак (✞) азначае, што чалавек ўжо памёр.*

### ПРАТЭСТ ВЫСПЯВАЎ У ПЕДВУЧЫЛІШЧЫ

Як толькі фронт пайшоў на захад, у Паставах замест колішняй настаўніцкай семінарыі адкрылася педвучылішча. Менавіта тут праз год і склаўся касцяк патрыятычнай групы. Штуршком да яе ўтварэння стала агрэсіўная палітыка русіфікацыі. Са знішчэннем і знявагай усяго роднага, светлага, беларускага шчырыя сэрцы маладых змірыцца не маглі...

**Алеся Фурс (Умпіровіч).** Нарадзілася ў шматдзетнай сялянскай сям'і ў вёсцы Азярава на Браслаўшчыне. У гады вайны вучылася ў семінарыі ў Паставах, потым у педвучылішчы. За пашыты для СБП бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» была асуджана на самы працяглы тэрмін. У турме за неданясенне на дачку памёр яе бацька. Тэрмін адбывала ў мардоўскіх лагерах. Пасля вызвалення разам з мужам Антонам жыла ў Казахстане. Скончыла Маскоўскі універсітэт мастацтваў, працавала мастаком-афарміцелем. З 1982 года з сям'ёй вярнулася

## Імя В. Чэпіка будзе прысвоена школе

Як вядома, 30 студзеня ў аўтакатастрофе загінуў кіраўнік «вертыкалі» Пастаўскага раёна В. Чэпік. Неадназначную рэакцыю пастаўчан выклікала ініцыятыва раённага аддзела адукацыі. У Пастаўскай СШ №1 пабываў загадчык РАА А. Кашырын і пераканаў падначаленых даць згоду на прысваенне школе імя В. Чэпіка. Такія пытанні прымаюцца кіраўніцтвам краіны, але ў Паставах некаму, відаць, вельмі хочацца, каб была «ініцыятыва знізу».

**У. Раманчук**

## Комплекс здароўя ў гарпасёлку

Першымі апрабавалі пляцоўку нядаўна ўзведзенага ў гарпасёлку Варапаева Пастаўскага раёна фізкультурна-аздараўленчага комплекса мужчыны-валейбалісты, якія яшчэ перад Новым годам правялі турнір. Далёка не ў кожным райцэнтры ёсць спартыўнае збудаванне такога ўзроўню, дарэчы, ужо другое па ліку на Пастаўшчыне. Апроч гульнёвай пляцоўкі памерам 40 х 18 метраў, у ім дзейнічаюць залы атлетычнай гімнастыкі, настольнага тэнісу, шахмат-шашак, гасцініца для прыезджых і шыкоўная сауна з лазняй. Узводзілі ФАК некалькі гадоў метадам народнай будоўлі з актыўным удзелам мясцовых прадпрыемстваў. Да слова, летась у гарпасёлку ўведзена ў эксплуатацыю новая аўтаматычная тэлефонная станцыя на тысячу нумароў, ачышчальныя збудаванні, філіял «Беларусбанка». Грошай не хапіла толькі на завяршэнне распачатага будаўніцтва нозага рынка.

## Будаваць ці не?

Дзесяты год па Глыбокім ходзяць размовы наконт таго будаваць тут ці не будаваць станцыю па ачыстцы і абезжалезванню вады. Да цяперашняга вадой горад напаўняюць 9 свідравін і 3 воданапорныя вежы. Спецыялісты дзяржслужбы са станцыі знайшлі самы ваданосны пласт якраз у зялёнай зоне Глыбокага. Раней тут быў кар'ер.Затым людзі высадзілі на гэтым месцы бор. Усе разлікі паказваюць, што найменшыя затраты будуць, калі менавіта тут будзе пабудавана насосная станцыя, рэзервуары для чыстай вады, лабараторны корпус і артсвідравіны. Але многія гараджане супраць высечкі дрэў на плошчы 2,2 гектары. Пісьмы-скаргі пайшлі ўжо ў абласную інспекцыю прыродных рэсурсаў

**У. Шык**

Жыццё якое яно ёсць

# «Цывілізацыя» на кожным кроку

Мяне заўсёды здзіўляла наша беларуская савецкая прастата. Уявіце сабе: у аўтобусе гарадскога транспарту да вас падыходзіць нейкая цётка і патрабуе прад`явіць «проездной билет». Я ў яе пытаюся: «Хто вы такая, каб я вам прад`яўляў білет?» Цётка пачынае крыўдзіцца і кажа, што яна кантралёр. А я зноў: «Чаму я вам павінен верыць? Ці ёсць у вас нейкая паперка, каб я вам паверыў?»

-- Вам што «удостоверение показать?-- пачынае ляментаваць яна.

Сітуацыя заканчваецца тым, што яна мне паказвае пасведчанне кантралёра а я ёй -- білет.

Нехта скажа: «Стаў у «позу» і чаго дамогся?» Здаецца -- нічога, але за дзяржаву крыўдна! Усё ж трохі паездзіў па свету і нешта там бачыў. Ну вось, напрыклад, у Латвіі, за «савецкім часам», кантралёрка заходзіла ў аўтобус у адмысловай уніформе: на каўняры прышыты пятліцы, якія паказваюць, што яна дужа важная «шышка» і ёй без пытанняў хацелася прад`явіць білет. А тут -- нейкі «калгас».Ні табе «бэйджа» на грудзях, ні формы, нават пасведчанне могуць дома забыцца, а хочуць правяраць білеты!

Адзін чалавек з Польшчы фатаграфаваў глыбоцкі касцёл. Ля яго спынілася легкавушка. Выйшаў грамадзянін у цывільным і запатрабаваў паказаць дакументы. Паляк пытаецца: «Ці я нешта парушыў? Касцёл нельга фатаграфаваць? Можа вуліцу перайшоў не ў тым месцы?»

-- Не, вы нічога не парушылі,-- кажа чалавек у цывільным.

Паляк зноў: «Дык чаму тады я павінен вам паказваць дакументы?»

-- У нас есть указание, что мы должны проверять документы (?!)

Госць паказаў пашпарт грамадзяніна Польшчы. Калі чалавек у цывільным яго гартаў, вельмі нерваваўся і ў яго трэсліся рукі.

-- Каб у нас, у Польшчы, паліцыянт без дай прычыны ўздумаў спраўдзіць дакументы, то мала яму потым не паказалася б,-- казаў мне пан Уладыслаў, ураджэнец Глыбокага, жыхар Гданьска.

А тут я іду па Глыбокім і чую як нехта крычыць: «Мужчына, стойце!!!» Гляджу: два міліцыянты ідуць да мяне...

-- Як фамілія?

Кажу ім,што мяне ўсе сабакі ў Глыбокім ведаюць і называю прозвішча.

-- Не. Не той!-- кажа адзін міліцыянт другому.

-- Што у вас у партфелі? Хацеў спачатку сказаць, што бомба, а пасля падумаў, што яны жарта не зразумеюць і кажу: «Два батоны».

-- Ладна, ідзі, -- махнулі яны рукой.

Гэта толькі ў фільмах можа быць па-іншаму: падыходзіць да вас міліцыянт, прадстаўляецца, называе званне і пасаду. Просіць прабачэння, што ён вымушаны праверыць вашы дакументы. Правярае і зноў просіць прабачэння за затрымку і жадае шчаслівай дарогі. Цывілізацыя нам толькі сніцца...

З Германавічаў (Шаркоўшчынскі раён) нам паведамілі, што нейкая цётка, Шэнда Ала, ходзіць па хатах Мёрскага і Глыбоцкага раёнаў і выдае сябе то за пагарэльцу, то за інспектара энергаагляду і правярае лічыльнікі энергіі ў прыватных вясковых сядзібах. Збірае грошы з наіўных людзей. А вы кажаце, што я «стаў у позу». Так і хочацца папытаць пасведчанне і заклікаць: «Людзі! Будзьце пільнымі».

*Мікола Самавіты*



Фота А. Ліпіна

Няхай вясна падорыць кожнаму прыгажосць, цеплыню і каханне.

# Глыбачанін -- ён і ў Польшчы глыбачанін



На здымку: Гелена Глагоўская і Уладыслаў Страшэвіч у Гданьску чытаюць кнігу Ул. Скрабатуна «Глыбокае на старых паштоўках». Здымак з архіву сп-ва Страшэвічаў.

З Велікодным віншаваннем на адрас «Вольнага Глыбокага» даслаў паштоўку Уладыслаў Страшэвіч з Гданьска. Ён, між іншым, паведаміў: «25 сакавіка беларусы ў Гданьску ўрачыста адзначалі 82-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Я таксама ўдзельнічаў. Пасля ўрачыстасці беларускі актыў спаткаўся ў прыватным доме. На ўрачыстай вячэры мы спявалі патрыятычныя і народныя песні.Часам ад пані Г. Глагоўскай дастаю газету «Ніва», якая выдаецца ў Беластоку. Жыве Беларусь!»

Культура

# «След на вечным гасцінцы»

Найперш пра «гасцінец». Расіяне таксама ведаюць гэтае слова. І атаясамліваюць яго з падарункам з нябліскай дарогі. А ў нас ён, найперш, шырокі, прасторны шлях, з якога, можа быць, і прывозяць нам гасцінцы (падарункі). Дык вось не пабаюся сказаць, што такім гасцінцам (падарункам) з вялікага гасцінца (шляху) стала для сяброў Полацка-Глыбоцкай філіі абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў кніжка нашай землячкі Галіны Сутулы «След на вечным гасцінцы», якая выйшла ў Мінску ў «Беларускім кнігазборы».А гэта ўжо гаворыць пра многае.

Выпадковыя аўтары, у якіх ні за душою, ні ў галаве нічога няма, туды не трапляюць. У кнізе Г.Сутулы сабраныя яе мініяцюры, не пабаюся сказаць, кшталту «Жмені сонечных промняў» Янкі Брыля. Тая ж дасціпнасць, тая ж трапнасць...Тая ж... але пачыста жаноцкая адметнасць і бачанне свету, яго ўспрыманне і адлюстраванне.

Увогуле, лепш прачытаць споведзь душы паэткі ў прозе і паэзіі. Далі Бог, ёсць чаму павучыцца. Шкада, што наклад яе кнігі ўсяго 500 асобнікаў. А трэба было б стольскі, каб хапіла на кожнага беларуса.

*Юрась Касцюк, незалежная газета «Хімік»*

# Са зброяй не жартуюць

Трое маладых хлопцаў з вёскі Ярава Пастаўскага раёна рашылі крута разабрацца са сваімі «крыўдзіцелямі». Узброіўшыся самаробным абрэзам, перапробленым з паляўнічага аднаствольнага ружжа ІЖ-17 16-га калібра, яны, выпіўшы, наведаліся ў вёску Нарковічы. Віна тамтэйшых братоў, да якіх прыйшлі «візіцёры», была ў тым, што яны былі павінны бравай троіцы мяшок мукі і не вярнулі ўзятую павозку. Страху браты нацярпеліся дастаткова, паколькі ім пагражалі зброяй і нават перадзёргваннем затвора патронніка. Суд Пастаўскага раёна палічыў такія дзеянні празмернымі і за прымяненне незарэгістраванай зброі і боезапасаў усіх трох пазбавіў волі тэрмінам на тры гады і шэсць месяцаў . Да слова, у першым квартале гэтага года у мясцовым судзе разглядаліся яшчэ дзве справы са «ствaламі» і боезапасамі .

*У. Шык*

**Благо народа -- высший закон**
Цицерон

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У рэдакцыі газеты «Витебский курьер» будзе працаваць «прамая лінія».**

Кожны аўторак з $17^{00}$ да $18^{00}$ па тэлефоне **37 76 82** Вы зможаце звярнуцца да прадстаўніка Беларускага Хельсінскага камітэта з інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць кансультацыю.

**Па праблемах парушэння правоў чалавека Вы зможаце звяртацца і па тэлефонах 2 37 54 ў Глыбокім, 2 14 28 у Браславе, 2 27 58 у Паставах.**

Бог ад усялякага чалавека, які мае Хрышчэнне, патрабуе трох дабрадзейнасцей: веры правыя ад душы, нявіннасці ад цела і ісціны ад языка.

*Св.Прав. Іаан Кранштацкі.*

*** ***

Не шукай спакою на зямлі і чалавечага суцяшэння: хто шукае спакою, у тым не можа прыбываць Дух Божы, а да каго набліжаецца Гасподзь, там памнажаюцца спакусы. Шлях Божы -- ёсць штодзённы крыж і ніхто не ўзыходзіць на неба жывучы прахладна.

*Святы Марк*

Да 2000-годдзя хрысціянства



# Паўвека ў цеснаце і крыўдзе

У далёкім 1949 годзе Глыбоцкі райсавет дэпутатаў пастанавіў адчыніць у горадзе бібліятэку. Пад яе адвялі палову будынка на першым паверсе былога польскага дома і 1 ліпеня таго ж года тут пачалі працаваць два бібліятэкары. Прайшло паўвека, але ў бібліятэчнай сістэме горада мала што змянілася, толькі штаты павялічыліся ды пад бібліятэку адышоў увесь будынак. Па-ранейшаму бібліятэкары працуюць у цеснаце і толькі мараць пра сучасны камп`ютарны каталог ды пра заслужаную аплату сваёй працы. Пакуль жа, як і ўсюды ў Беларусі, глыбоцкія супрацоўнікі «кніжнага храма» па заробках амаль астатнія, абагналі толькі няшчасных калгаснікаў ды сацыяльных работнікаў. Калі ж і дзе справіць наваселле Глыбоцкая бібліятэка?

*У.Шык*

## ВЕЧНАЯ ПАМЯТЬ

**Зусім нядаўна з Канады ад Кастуся Акулы прыйшло пісьмо, у якім ён піша пра смерць свайго блізкага сябра і яго жонкі і просіць надрукаваць некралог. Паколькі загінуўшы ў аварыі Віктар Касцюкевіч наш зямляк, мы выконваем просьбу.**

Касцюкевічы адышлі ў вечнасць.

Выпадак ці здарэнне? Паліцыя з Пэры Соўнд, што даследвала смерць Віктара і Ірыны Касцюкевіч на тэрыторыі нашага Слуцку пасля 23-га сакавіка сёлета, назвала assident (выпадак, здарэнне). Сведкаў не было. Адно пусты, крыху пагружаны ў ваду каяк і мужчынская шапка ў вадзе. Гэта знайшлі двое нашых сяброў, што паехалі ў Слуцак 24-га сакавіка. Збоку ж, ля самага берага вялікага возера Манітовабінг, незамкнёныя дзверы дому гаспадароў. Нічога ў хаце не прапала.

Таронцкім і іншым пляткаркам няма асноваў, пацверджаных сведкамі, каб давесці што і як адбылося.Трагічны выпадак. Двое цэнных, заслужаных суродзічаў у ваду канулі. Тут слова «канулі» апроч прынятага мае і рэальнае значэнне, бо знайшлі ж іх, добра пашукаўшы, на 4-метровай глыбіні ў вадзе, хаця і не побач адзін другога...

**Віктар Касцюкевіч радзіўся ў жніўні 1925 года ў Скудуцях Докшыцкага раёна, Ірына -- у 1926 г. у Польшчы.**Ззаду за імі-нялёгкае мінулае па розных краінах Еўропы. Віктар, пасля настаўніцтва ў Беларусі, Віленскай беларускай гімназіі, Беларускай Краёвай Абароны, дапамагаў хаўруснікам у Італіі ў складзе Другога польскага корпуса 8-ай арміі. Напачатку 50-ых гадоў гэта руплівая і працавітая пара прыехала ў Таронта.

Працавалі ў індустрыі. Сын Лео(Лявон) скончыў універсітэт, цяпер лётнікам сцеражэ канадыйскія берагі над Ціхім акіянам у ваколіцы Ванкувэры і іншых пунктаў, дачка Джанет жыве з дзецьмі ля Таронта.

Віктар некалькі гадоў старшынстваваў у галоўнай Управе Згуртавання беларусаў Канады, займаў іншыя адказныя становішчы ў беларускім канадыйскім грамадстве. Ірэна ў працы і памачы іншым нідзе ад мужа не адставала.

Малітва і служба паховінаў адбылася ў Логан Фюнэрал Гоўм у Пэры Саўнд 1-га красавіка. Ладзілі яе мясцовы аддзел канадыйскіх вайсковых ветэранаў і святары. З Таронты і ваколіц присутнічала 14 асоб, у іх ліку Першы Ярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы архіяпіскап Мікалай, старшыня ЗБК Надзя Дробін і іншыя сябры беларускіх арганізацый.

Пасля паравоту з могілак у зале ветэранскага дому нарыхтаваны быў абед. Была кароткая прамова з боку ветэранаў ды і падзяка ім за помач у паховінах і гасціннасць.

**Радні памерлых--наша шчырае спачуванне, а Віктару і Ірэне -- вечная памяць!**

**Набывайце «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!**

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб`ём -- друкаваны аркуш. Падпісана ў друк 10 траўня 2000 года ў 13-30.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 121

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 3171